В. Чэкмонас 1

# Беларуская мова ў Літве

Доўга пасля падзелаў Польшчы лічылася, што ў Літве і ў "Паўночна-Заходнім краі" пражываюць толькі палякі. У сапраўды: Віленскі Імператарскі універсітэт працаваў на польскай мове, А. Міцкевіч апяваў сваю айчызну Літву, усе адукаваныя людзі якой гаварылі і пісалі па-польску.

Асноўная дзяржаўная і літаратурная мова Вялікага Княства Літоўскага, якую яе носьбіты называлі "рускай", даўно ўжо была мёртвай.

Але гісторыкі ўжо на пачатку XIX ст. ведалі, што д сяляне на землях В.к.Л. гавораць або па-літоўску, або...

М. Балінскі, польскі гісторык, гэтую другую мову называў "польска-рускай", або "руска-польскай", проста "славянскай", "сумессю польскай мовы з рускай" і нават "рускай".

Граф К. Тышкевіч, апісваючы берагі Віліі, ~~А~~ гаворыць аб "русінскім дыялекце", "мове русінай", пашыраным аж да вусця Нёмана. Праціпастаўляючы "русінскую" ~~польскай мо~~ літоўскай мове,

першую ён называе .... польскай.

Словам "беларус" часта карыстаецца У. Сыракомля, але мова беларусаў для ~~того~~ яго "польская, толькі простая".

Зразумела, на падставе такіх звестак дакладна ўстанавіць граніцы "распаўсюджання беларускай мовы досыць трудна.

У 1903 г. акад. Я. Карскі публікуе "Этнаграфічную карту беларускага племені". Больш дакладнай была карта Я. Развадоўскага (1914 г.).

Цяпер мы ведаем, што на канец XIX в. граніцы беларускай мовы дакладней усяго паказваюць даныя перапісі 1890 г.; яны старанна перанесены на карту А. Відугірысам і П. Гаучасам.

Сучасныя яе граніцы былі ўдакладнены навуковай экспедыцыяй восенню 1989 г. (гл. карту-схему). Як відзім, па беларускі гавораць
? польская насельніцтва Шальчынінкскага раёна, паўднёвай часткі Вільнюскага, на пагранічы з Беларуссю ў Свянцянскім, а таксама на ўсходзе Тракайскага раёна.

Усе беларусамоўныя палякі ў той ці іншай ступені валодаюць польскай мовай.

Беларускія гаворкі палякаў Літвы практычна не адрозніваюцца ад паўночна-заходніх

гаворак Беларусі. Але мясцовыя жыхары схільны ад~~розніваць~~ [мяжоўваць] сваю ~~беларускую~~ мову ~~ад~~ ад беларускай, называючы сваю "простай".

Выказванні аб тым, што "простая мова" з'яўляецца "змешанай" (з польскай), ~~або~~ "пераходнай" (ад беларускай да польскай], або што гэта гаворка польскай мовы не маюць ніякіх ~~навуковых~~ абгрунтоўных падстаў.